 


# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 4 (1039) ГОД XXI 25 СТУДЗЕНЯ 1976 г. ЦАНА 60 гр.




Зімою Марыя Герасімюк (старшыня КГВ) і Ольга Галёнка (член КГВ) з вёскі Махнатае займаюцца пляценнем саламяных кашоў.

Фота Я. Цялушэцкага

## ЯК У МАХНАТЫМ БЫЦЬ БАГАТЫМ?

Паабапал брукаванай вуліцы раскінулася сто, а можа і больш сялянскіх сяліб. Солтыс **Сяргей Кучко** кажа мне, што ў Махнатым налічваецца дакладна 115 жылых дамоў. А мне здаецца, што гэтай вуліцы няма канца. І чаму гэтая вёска называецца Махнатым? Назва гэта неяк насцярожвае, адпіхае, выклікае ўяўленне сапраўды чагосьці махнатага, валахатага.

А ў сапраўднасці гэта ж вельмі прыгожая і адначасова багатая беларуская вёска ў Гайнаўскай гміне Беластоцкага ваяводства. Як многа тут новых, мураваных, агароджаных жалезнымі платамі дамоў, сярод якіх красуецца сапраўдная двухпавярховая вілла Антона Сельвясюка.

Летам у Махнатым адбыліся гмінныя дажынкі. Вёска рыхтавалася да іх, як да вялікага свята. Паявіліся жалезныя агароджы панадворкаў, садочкі з кветкамі, а Павел Давідзюк так жывапісна размаляваў сваю драўляную хату, што напамінае яна цяпер казачны церамок.

Дождж і снег заганяе нас у солтысаву хату, дзе гаспадыня занята шаткаваннем капусты. Работа ідзе спраўна, бо жанчыну выручае машына. Адно толькі падавай ачышчаныя галоўкі і круці корбай.

— Што вы так позна заняліся капустай? — пытаю, каб пачаць гутарку.

— Дык не было патрэбы спяшацца, — паясняе гаспадыня. — Капуста і ў галоўках добра ляжыць. А калі пазней заквасім, дык смачнейшая летам будзе.

Гаспадар просіць мяне ў суседні пакойчык, дзе на ганаровым месцы красуецца вялізны тэлевізар. Праз адкрытыя дзверы зазіраю ў „парадную" гэтага дома, абсталяваную па прынцыпу гарадской моды — бліскучай фабрычнай мэбляй, да якой не вельмі падыходзяць дамотканыя, надзвычайнай прыгажосці ваўняныя, шматкаляровыя, узорыстыя дываны. Але гэта ўжо такі сучасны звычай, каб „парадная" сялянскага дома зіхацела купчай мэбляй, каб без лішніх паясненняў стварала ўяўленне аб заможнасці гаспадара дома.

Сяргей Кучко — яшчэ кавалер, гаспадарыць разам з бацькам на дзесяцігектаровай гаспадарцы. Спецыялізуецца ў гадоўлі кароў. Трымае іх аж 15 штук. Пабудаваў велізарную, па-сучаснаму абсталяваную абору, цяпер уводзіць там поўную механізацыю.



На чорна-белым фота гэтага не відаць, але хата Паўла Давідзюка і яе жалезная агароджа размаляваны яркімі фарбамі, як казачны церамок.

Можа сабе дазволіць на гэта, бо яго гаспадарка высокапрадуктыўная, высокатаварная, і ён не толькі забяспечвае сябе і сваю сям'ю, але таксама шмат чаго яшчэ прадае дзяржаве.

— За малако ў мінулым годзе, — інфармуе, — узяў я тысяч 40, за мясныя ялоўкі-шаралезы — 54 тысячы...

Няма патрэбы лічыць чужых грошай. Яны з неба, быццам залатая манна, не сыплюцца. На іх трэба цяжка, разважліва і разумна папрацаваць. Важна аднак тое, што гэтая праца аплочваецца, прыносіць прыбытак, стварае ўпэўненасць, што заўтрашні дзень будзе яшчэ лепшы.

Солтыс Сяргей Кучко, які ў Махнатым з'яўляецца адначасова сакратаром вясковай партыйнай арганізацыі, расказвае пра навейшую гісторыю сваёй роднай вёскі.

*Год 1971 — у старой хатцы, якую адрамантавалі грамадскім чынам, адкрылі вясковы клуб.*

*Год 1972 — вёска прыступае да конкурсу „Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная" і ў наступным годзе заваёўвае першае месца ў павеце.*

*Год 1973 — гэты клуб у старэнькай хатцы аказаўся найлепшым у Беластоцкім, яшчэ не падзеленым ваяводстве.*

*Год 1974 — махнатаўскі вясковы клуб зноў ацэньваюць як адзін з лепшых. Адначасова вёска паскоранымі тэмпамі будуе ўжо мураваную святліцу і адначасова супрацьпажарную рамізу.*

Старшыня махнатаўскіх пажарнікаў **Андрэй Пасынюк** гаворыць мне, што ён сам, не шкадуючы ні часу, ні ўласных грошай, аж 34 разы ездзіў у Гайнаўку, каб афармляць розныя справы, звязаныя з пабудовай гэтай рамізы-святліцы, у якой зараз часова вучацца махнатаўскія дзеці, бо не хапае ім месца ў старэнькай драўлянай школе.

У гэтай новай рамізе размясціўся таксама гурток вясковых гаспадынь. Энергічная сялянка **Марыя Томчук** паказала мне шафы, запоўненыя талеркамі, шклянкамі, лыжкамі, відэльцамі, нажамі і... кілішкамі. Справа важная. Мода цяпер у нас такая, добрая мода, каб на вяселлях ці хрэсьбінах або і ў

Працяг на стар. 4

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"



Кожны дзень Беластоцкая радыёвяшчальная станцыя высылае ў эфір пачатковыя тоны вядомай Манюшкаўскай песні аб кудзельніцах („Kręć się, kręć wrzeciono..."). Гэта пазыўныя **Беластоцкай рэдакцыі** Польскага радыё і тэлебачання. Памяшчаецца яна ў новым прыгожым будынку на ўскраіне гарадскога парку ля вуліцы Сврковай ў Беластоку. Гмах Беластоцкага радыё пабудаваны быў у мінулым годзе. Яго абсталявалі навейшай электроннай тэхнікай, шмат тут імпартных прыбораў і абсталявання, асабліва заходнегерманскай, аўстрыйскай і швейцарскай прадукцыі.

Радыё валодае тэхнічнымі магчымасцямі хуткай перадачы інфармацыі. Штодзённая газета, для прыкладу, можа паведаміць сваім чытачам аб нейкай важнай падзеі найхутчэй на другі дзень, тыднёвік — праз два-тры тыдні, а радыё — практычна адразу...

Беластоцкае радыё сочыць за падзеямі трох цяперашніх ваяводстваў: **Беластоцкага, Ломжынскага і Сувальскага. Што ж цікавага прапануе сваім слухачам Беластоцкае радыё ў 1976 годзе?**




Гэтае пытанне паставіў я галоўнаму рэдактару Беластоцкай рэдакцыі Польскага радыё і тэлебачання **Янушу Веранічаку.** З яго інфармацыі вынікае, што з пачаткам 1976 года ў праграме Беластоцкага радыё наступілі істотныя змены. Для прыкладу, **павялічыўся час, адведзены для радыёперадач на беларускай мове з 15 мінут у тыдзень да 20 мінут у тыдзень.** Гэтыя дадатковыя пяць мінут у гадавым маштабе **складаюць больш чым чатыры гадзіны часу,** і нялёгка было іх знайсці ў плане радыёперадач, запоўненым да адказу важнымі грамадскімі праблемамі і справамі. **Цяпер радыёперадачы на беларускай мове Беластоцкае радыё перадае ў кожную суботу ад 12.05 да 12.25,** а не так, як было да 1976 года, калі ішлі яны ў эфір у кожны панядзелак а 8.15 раніцы. Здаецца, што цяперашні дзень і час трансляцыі радыёперадач на беларускай мове болей спрыяльны для нашага насельніцтва. У сялян у суботу заўсёды менш працы, як у панядзелак, бо — як адзначаецца ў народнай пагаворцы — *„калі прыдзе субота, ужо скончана работа"*, а больш-менш зараз пасля дванаццатай гадзіны

**(Працяг на стар. 3)**

 

 

Пачатак на стар. 1

# ЯК У МАХНАТЫМ БЫЦЬ БАГАТЫМ?

час іншых сямейных і сваяцкіх урачыстасцей кожнаму госцю была асобная талерачка, лыжка, відка, нож і абавязкова асобны кілішак. Проста, як калісьці ў паноў бывала... А на вяселле па-даўнейшаму склікаюць у нас не менш ста чалавек...

Такі пункт, як у Махнатым, вельмі аблягчае жыццё сялян.

З цікавасцю зазіраю ў праслаўлены махнатаўскі клуб. Зала вельмі маленькая, змяшчае ўсяго ледзь адзін тэлевізар і некалькі столікаў. Аднак відаць тут дбайная рука гаспадыні **Галінкі Кот** і яе сброў з гуртка **Саюза сацыялістычнай вясковай моладзі,** якім у Махнатым кіруе **Ян Кот,** а яго намеснікам з'яўляецца **Пеця Семянюк.** Разам з членамі Польскай аб'яднанай рабочай партыі і членамі Аб'яднанага людовага стронніцтва, якое таксама мае ў Махнатым свой актыўны гурток, вырашаюць яны найважнейшыя справы сваёй вёскі, няспынна ўтрымоўваюць высокую грамадскую актыўнасць яе жыхароў, указваюць ім мэты, да якіх варта і трэба імкнуцца. Вось у 1976 годзе распачнецца ў Махнатым пабудова гандлёвага павільёна — так, павільёна, а не вясковай, задрыпанай крамы, а крыху пазней будзе пракладжаны водаправод, тратуар і новая вуліца...

Не, не ўсё ім даецца. Вось, для прыкладу, ужо другі год беспаспяхова ваююць яны з праўленнем мясцовых дарог, каб вызначыць у іх невялікі адрэзак дарогі, якую — як многа іншых — рашылі яны пабудаваць грамадскім чынам...

Надзеі аднак не пакідаюць, **бо яны ведаюць, што ў Махнатым толькі тады можна быць багатым, калі сам добра папрацуеш. Ды не толькі ў Махнатым.**

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара.



*Солтыс Сяргей Кучко з'яўляецца адначасова сакратаром партыйнай вясковай арганізацыі ў Махнатым. З яго таксама добры жывёлавод.*



*Вось і такія асабнякі, як у Антона Сельвясюка, паявіліся ўжо ў Махнатым.*




**ВОСЬ ДЫК КРЫТЫКА!**

Ад імя Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы адказваю на крытычную заметку, змешчаную ў 46 нумары „Нівы", „Ці хутка?" — аб гаспадарчым будынку пры нашай школе. Думаю, што ў гэтай справе выйшла вялікае непаразуменне. Будынак гэты моладзь пачала будаваць у маі 1974 года. Яго вартасць — 220 тыс. злотых. Дзяржаўныя сродкі на ўспамогу грамадскіх пачынаў раўняюцца суме 90 тысяч злотых. Вартасць усіх прац, выкананых моладдзю і бацькамі, — 130 тыс. злотых, у тым ліку 30 тысяч злотых дабравольных узносаў бацькоў. Большасць грамадскіх работ пры гэтым будынку выконвала сама моладзь.

Хачу тут падкрэсліць, што ў гэтым годзе наш ліцэй па вартасці выкананых грамадскіх прац заняў другое месца, за пачатковай школай у Чыжах. Будынак быў аддадзены ў карыстанне ў кастрычніку 1975 года. Яго паверхня займае 120 квадратных метраў. У ім знаходзяцца склады на вугаль і іншыя рэчы, а таксама кухня, у якой школа вядзе дакармліванне — з яго ў нас карыстаецца 180 вучняў. Пасля апублікавання вышэй адзначанай заметкі, я даведаўся, што карэспандэнт вучыцца ў нашым ліцэі, ды, відаць, яго не цікавіць справа нашай школы, і ён мала ўлажыў працы сваёй у пабудову гэтага будынка.

**„Вада"**




Не, гэтым разам не пра транспарт іншапланетных істот, а пра звычайны зямны аб'ект. Так-так, пра зямны! Тыневічы Вялікія ляжаць у Нараўскай гміне, а гэта ж, зразумела, частка зямнога шару.

Ну, але вернемся да „паўміска". Каб не ўвесці многіх у абман або не абудзіць у іх недаверлівасці, то скажу проста — гэта не што іншае, як святліца, формай нагадваючая вялікі паўмісак, які для жартаў, а можа, каб падкрэсліць нетыповасць, назвалі лётаючым. Аднак, давайце памалу ды па чарзе.

Пачнем ад моладзі, якой у Тыневічах Вялікіх і Малых (ляжаць вельмі блізка), дзякуючы мясцоваму прадпрыемству, што займаецца вытворчасцю будаўляных матэрыялаў, ёсць шмат. Уся яна — гэта члены СЗМВ. Вось менавіта гэтая моладзь і не давала спакою кіраўніку прадпрыемства Сяргею Мартынюку, безупынна просячы, каб склікаў сход. У чым рэч — не прызнаваліся. Цвёрда трымалі ў таямніцы. Ну і 19 лістапада 1975 года адбыўся сход, на які прыбылі солтыс ды прадстаўнікі пажарнай каманды. Тут і выявілася тайна. Дамагаліся пабудовы святліцы, але такой святліцы, якая б выдзялялася сярод навакольных і гарадскіх кафэ нечым новым, небывалым. Зразумелая рэч. Стольki ж маладых людзей — павесяліцца хочацца! А дзе ж павесялішся, калі святліцы няма? Вырашылі будаваць. Хутка былі зроблены планы. Засталося толькі пытанне — як рабіць? Усё ж такі рэч каштоўная. Трэба паўмільёна злотых на адны толькі матэрыялы і мэбліроўку. На роздумы, аднак, многа часу не трацілі.

— Грамадскім чынам! — крыкнулі ўсе як адзін.

Мігам зрабілі графік — хто, што і калі. Выбралі за гэта адказнага і прыняліся за працу. Склікаць нікога не трэба было. Закончыўшы працу на прадпрыемстве, кожны з ахвотай ішоў выконваць свой абавязак. Калі нехта не мог, напрыклад, сёння — адрабляў на другі дзень. Часта працавалі нават да трэцяй гадзіны ночы. Не адставаў і кіраўнік прадпрыемства. Дапамагаў як мог. Ішоў ён на вялікае супрацоўніцтва з моладдзю, верачы ў тое, што яна яго не падвядзе.

Мала тут гаварылі, а многа рабілі. За 40 дзён паставілі цэлы будынак — гэта ж не жартачкі. Ну але і працавалі! Напрыклад, Сяргей Вязоўскі — шэф цэлай пабудовы — працаваў аж 240 гадзін, даючы гэтым добры прыклад іншым. Засталося яшчэ толькі паўстаўляць вокны даволі магутных размераў.

— Чаму такія вялікія вокны? — звяртаемся да кіраўніка прадпрыемства. — Ці выпіўшы (бо і так бывае) не заменіць іх нехта ў дробныя кавалкі?

— Не! — адказвае ўпэўнена. — Калі і здарыцца, дык будзе гэта нехаця і ніхто нават не заўважыць, калі і хто ўставіць новае. Моладзь не такая дрэнная, як многія лічаць.

І сапраўды, у іх моладзь можна верыць. Хопіць толькі сказаць, што трэба нешта зрабіць — начамі будуць сядзець у прадукцыйнай зале, пакуль не выканаюць. Ды і не толькі моладзь! Старэйшыя жыхары Тыневіч таксама вельмі дружныя. Усе яны ў глыбіні сваіх сэрц носяць грамадскі абавязак.

Аднак у сувязі з святліцай не ўсё яшчэ ясна. Відаць, любяць тут таямніцы. А гэта добры знак. Не хваляцца словамі, а тым, што зрабілі. Безупынна думаюць цяпер над святлом. Яно ж таксама мусіць быць нетыповым. Лёгка падгледзець у кагосьці, але яны хочуць мець сваё, тыневіцкае. І напэўна будзе!

**М. Шаховіч**

БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА — АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

## ЦІШКА ГАРТНЫ — ЧАСТКА IV

**Рамесніцка-пралетарскія матывы.** Асноўным героем ранняй паэзіі Гартнага з'яўляецца праца. Вершы, у якіх выступае паказ працы гарбара — рамесніка, можам назваць вершамі аўтабіяграфічнымі. Толькі ў нямногіх беларускіх пісьменнікаў нашаніўскага перыяду можам знайсці вершы, так моцна тэматычна звязаныя са спецыфікай уласнага жыцця, як у Гартнага. Нават сялянскія вершы Коласа былі ў нейкай ступені праявам уяўлення, бо, як вядома, сам паэт не займаўся земляробчай практыкай. Яшчэ менш земляробчага аўтабіяграфізму знойдзем у паэзіі Купалы ці Цёткі.

Аднак, ёсць сярод нашаніўскіх паэтаў аўтар, „прадукцыйныя" вершы якога вынікалі са спецыфікі яго жыццёвага лёсу, са спецыфікі яго працы. Гэтым паэтам быў Гарун. Яго сібірскія вершы былі вынікам не толькі назірання, але і вынікам яго працы. Вось тут і збліжаецца паэзія Гаруна і Гартнага. Аднак не значыць гэта, што маем тут дачыненне з поўнай аналогіяй. Справа ў тым, што падняволыная праца ў ссылцы была для Гаруна толькі пракляццем, толькі няшчасцем. У Гартнага знаходзім няма такіх вершаў, у якіх праца паказана як няшчасце, але няма і такіх, у якіх паэт складае ў чэсць працы пахвальныя гімны. Для большай яснасці разгледзім рамесніцка-пралетарскую паэзію Гартнага ў двух аспектах. У першай групе прадставім тыя вершы, у якіх выступае асуджэнне падняволынай працы, у другой тыя творы, у якіх паэт захапляецца прыгажосцю працы. У першую групу трэба залічыць такія вершы, як „Ах, як стрэлка марудна ідзе", „Сагнуўшыся, я ля верстака стаю", „Гэй, не тамецеся, рукі", „Дожджык падкрапляе", „Песня грабара", „Калысная песня", „Пазыў". Амаль усе гэтыя вершы маюць аўтабіяграфічны характар. Напісаны яны на аснове ўласнага вопыту, уласнай працы ў гарбарскіх майстэрнях. Да галоўных момантаў гэтых вершаў трэба аднесці:

апісанні цяжкай працы;

характарыстыку песімістычных настрояў, выкліканых працай;

апісанні дрэнных памяшканняў, у якіх змяшчаюцца гарбарскія майстэрні; супрацьстаўленне духаты і цесныты майстэрняў прастору і прыгажосці прыроды.

Па сутнасці, усе гэтыя элементы выступаюць у вершы „Ах, як стрэлка марудна ідзе". Паэту здаецца, што нехта ўстрымаў стрэлку гадзінніка, што яго падняволыная праца працягваецца без канца. Паводле паэта, усё ў гарбарскай майстэрні дрэннае, брыдкае, цёмнае, безнадзейнае. Нічога дзіўнага, што адзінае жаданне — дачакаць канца рабочага дня і ўцячы з майстэрні ў поле.

*Цэлы дзень я за брудным сталом,*
*Цэлы дзень скуру цвёрдую скроб,*
*Стаючы укапаным калом...*
*...Навакола чатыры сцяны,*
*А на іх запляснелая столь,*
*У сабе захавалі яны*
*Маю крыўду, жаданне і боль.*
*Вось і вечар... цяпер я на міг —*
*На адзін — сабе волю найду,*
*Кіну-рыну усё і усіх*
*Ды ў поле я к лесу пайду.*

З яшчэ больш згушчанай атмасферай асуджэння гарбарскай працы маем дачыненне ў вершы „Сагнуўшыся, я ля верстака стаю". У творы выступае амаль баладны настрой. Гарбарская майстэрня набірае характару пякельнага месца. Верш збудаваны па прынцыпу антытэзы. Усе чорныя фарбы аўтар звязвае з рысункам майстэрні, усе ружовыя — аддае прыродзе. Брыдота майстэрні і хараство прыроды, брыдота блізкага і хараство далёкага, брыдота рэчаіснага і хараство ўяўнага — вось праявы паэтычнай антытэзы.

Супрацьстаўленне цяжару ўласнага жыцця лёгкасці прыроды выступае ў цікавых, хаця крайніх паэтычных асацыяцыях. Вось прыклад:

*Дзегаць і лой мне рукі раз'елі,*
*Шчокі ў гразі ды смуродзе счарнелі,*
*Ружа завяла,*
*Шчасце прапала, —*
*Скура забрала...*
*Там, за акном, ціха неба сінее,*
*Сонца там дзіўна і свеціць і грэе,*
*Я ж у спякоце,*
*У гразі і ў поце, —*
*Я на рабоце...*
*Цягнуцца к лесу чароўныя далі;*
*Мураўкай, поплавам землю заслалі,*
*Як дываном;*
*Там ноччу і днём*
*Вяселле кругом...*

Жыццё — з'ява сатанічная, прырода — з'ява анельская. Хочацца сказаць, прачытаўшы верш: несумненна, так думаў „запёрты нядоляй у чатыры сцены" паэт.

Варта звярнуць увагу на стылістыку і структуру гэтага верша. Стыль яго адзначаецца яснасцю і дынамікай. Аўтар у кожнай страфе чаргуе два доўгія радкі з трыма кароткімі. Доўгія маюць характар апісальны, інфармацыйны, кароткія з'яўляюцца лаканічнымі абагульненнямі, вывадамі, як бы ўдарамі, якія канчаткова маюць пераканаць чытача ў праваце аўтарскіх думак.



 

ІМПАРТГУМАР

## АДСЯБЯЦІНА

У праўленні калгаса доўга ламалі галаву над паперай наступнага зместу:

„У аўторак спаўняецца 85 гадоў з дня нараджэння вядомага дзіцячага пісьменніка таварыша Крошкіна, аўтара папулярных раманаў „Дзядуля", „Бабуля", „Унучка". У сваёй творчасці ён прайшоў тры этапы — дзяцінства, юнацтва і сталыя гады — і адлюстраваў іх з прысутным яму талентам. Просім прыслаць віншаванне юбіляру ад імя сельскіх чытачоў".

У праўленні сядзелі людзі працавітыя, талковыя, далікатныя. Канечне, у іх таксама былі асобныя недахопы. Напрыклад, яны нават не ведалі пра існаванне таварыша Крошкіна. Але яны знайшлі ў сабе сілы перадолець свае недахопы і паслалі юбілейнай камісіі паперу наступнага зместу:

„У аўторак спаўняецца 85 гадоў з дня нараджэння вядомага дзіцячага пісьменніка таварыша Крошкіна, аўтара папулярных раманаў „Дзядуля", „Бабуля", „Унучка". У сваёй творчасці ён прайшоў тры этапы — дзяцінства, юнацтва і сталыя гады — і адлюстраваў іх з прысутным яму талентам. Сельскія чытачы віншуюць юбіляра.

Жадаем яму ніколі не хварэць".

Апошні радок юбілейная камісія выкрасліла: адсябяціна.

**Аляксандр Брынкавяну**
Малдавія



## НАВІНА

Чулі, што дзеецца, чулі, што робіцца?
Сын Міхаліны з жонкай разводзіцца.
Вы ўявіць сабе гэтае можаце? —
Суседка ўздыхнула каля калодзежа.
Са спачуваннем другая зазначыла:
— Чуць я не чула, сама часта бачыла,
Як ён, нягоднік, дадому вяртаецца,
Позненька-позна, ідзе і хістаецца.
— А мне ў развод іх чамусьці не верыцца,
Вельмі ўжо любіць Антон сваю Верачку,
Як галубкі між сабою мілуюцца, —
Трэцяя кажа.
— Гэта ж на вуліцы
Усё для адводу вачэй толькі робіцца.
— Ну пажылі, а цяпер і разводзяцца. —
Уставіла слова суседка чацвёртая,
Вёдры ўзяла і дадому пакрочыла.
А навіна абляцела маланкаю
Хаты ўсе ад калодзежа ранкам тым,
Хоць у хлусні былі ногі кароткія,
А навіна была простаю плёткаю.

**Язген Крупенька**

# НІЎКА





### НАВАТАРСТВА

Парфён цікавіцца ў Кастуся:

— Кастусь, калі ты вып'еш, то ў цябе на другі дзень твар таксама ў сінякох і пацарапаны?

— Не, — адказвае Кастусь.

— А чаго ж яно так? — дапытваецца Парфён.

— Бо калі я вып'ю, — кажа Кастусь, — дык у хату заходжу задам наперад.

### ПАХВАЛІЎСЯ

Вучань хваліўся свайму сябру:

— Мяне настаўніца дужа любіць, ад сябе не адпускае, нават на другі год мяне ў сваім класе пакінула.

### ДРУГАЯ КНІЖКА

У ашчаднай касе сустрэліся двое:

— А, прывітанне! — сказаў першы. — Дрэнь твае справы. Кажуць, бярэш хабар, а грошы кладзеш на кніжку. Гэта ж хамства!

— Не хвалюйся, — адказвае другі. — Тыя грошы жонка кладзе на сваю кніжку.

### ПАЛЕГЧАЛА

У час абходу хворых у палаце лекар пытае бабулю Параску:

— Як адчуваеце сябе?

— Ды вось сястра, дзякуй ёй, нешта пад паху палажыла і адразу ж палегчала, — адказала бабуля.

### У ШАТЛАНДЫІ

— Ведаеш, што зрабіў адзін шатландзец, знайшоўшы на вуліцы пакет з мазольным пластырам?

— ???

— Неадкладна купіў сабе цесныя чаравікі!

### ЭЛАЧКА

Элачка пытае ў мамы:

— Скажы, чаму ты выйшла замуж за тату?

Маці глыбока ўздыхае і задумённа гаворыць:

— Ну вось і ты задаеш гэтае пытанне...

### З ЖЫЦЦЯ ХАРЫТОНШЫНАГА АЛЁШКІ

Будучы яшчэ студэнтам, выходзіць Алёшка з аўдыторыі. Таварышы пытаюць яго:

— Ну што, здаў ці не?

— Ды, здаецца, здаў, — адказвае Алёшка.

— А што ж яна цябе пытала?!

— А хто яго ведае — яна ж пытала па-нямецку.

**З чаго смяюцца суседзі**

### УСЁ РОЎНА НЕ ПАЧУЕ

Жабрак звяртнуўся да Мушфішкі:

— Падай што-небудзь, мула, век буду маліцца за цябе.

— Алах усё роўна не пачуе тваю малітву, — сказаў Мушфішкі, — таму няма сэнсу даваць табе міласціну.

— Адкуль ты ведаеш, што алах не пачуе маю малітву? — здзівіўся жабрак.

— Каб ён пачуў, то даўно дапамог табе і ты не жабраваў бы, — адказаў Мушфішкі.



... — Я павышаю свой узровень! — сказаў ён, сеўшы на шыю жонцы.

...Ён не выносіў падхалімаў: лічыў іх сваімі канкурэнтамі.

ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Крыстыны Сакалоўскай з Піражкоў змяшчаем песню*

## Czym dla wojska jest piosenka...

**słowa: J. Bekker**
**muzyka: J. Szczygieł**
**śpiewa Krzysztof Krawczyk**

Wypłukały deszcze drogi
Szron posrebrzył nagie drzewa
Czarne chmury nad głowami
Wojsko idzie, wojsko śpiewa...

Czym dla wojska jest piosenka?
Słońcem i deszczem
Łykiem wody w dzień upalny
Błękitem nieba
Czym dla wojska jest piosenka?
Burzą i gromem
Cieniem drzewa, ciepłym piecem
Zapachem domu
Czym dla wojska jest piosenka?
Świętem największym
Druhem, wiernym przyjacielem
Chlebem powszednim
Druhem, wiernym przyjacielem
Chlebem powszednim.

Dom rodzinny już za nami
Wyruszyliśmy, bo trzeba
Twarda ziemia pod nogami
Wojsko idzie, wojsko śpiewa...

Czym dla wojska jest piosenka...

ГУМАР З

### ВЫТЛУМАЧЫЎ

Адзін селянін вёз узімку пана. На двары мароз лютуе. Пан сядзіць у санях. Селянін павольна крочыць побач з конмі. Праз нейкі час пан змёрз і, прагнучы хутчэй дабрацца да цёплага жылля, кажа: „Сядай, мужык, на сані, хутчэй будзем ехаць. Бо, бачу, коням холадна". А селянін кажа: „Дзякую, пане. Я нават, калі ў поле гной вязу, і то на сані не сядаю".

ХАКЕЙ

ФУТБОЛ

*— На працы сумаваць няма калі: толькі канчаецца адзін сезон, як пачынаецца другі.*

НЕЗВЫЧАЙНАЯ СІТУАЦЫЯ



*— Сама падумай: я напісаў 277 ананімак на сумленных людзей, дык хіба я маю права пасля гэтага на свеце жыць?..*

### МІКОЛКА

— Я пайду зараз у краму, — сказаў бацька Міколку, — а ты сядай за ўрокі.

Толькі бацька за парог, а Міколка знайшоў мяч і давай цаляць ім у ката.

І здарылася так, што мяч трапіў не ў ката, а ў шыбу. Зазвінела шкло. Засумаваў Міколка. Што ж яму бацька за шыбу скажа?!

Але вось бацька вярнуўся. Міколка пабег насустрач, развёў рукамі:

— А я шыбу незнарок разбіў. Хацеў трапіць у ката, а трапіў у акно......

— Вось бяда, — кажа бацька. — Ну, малайчына, што хоць сумленна прызнаўся. На табе за гэта цукерку.

Паласаваўшыся салодкім, Міколка падумаў: „Вось добра... Тады я заўтра дзве шыбы выб'ю".

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Усё падыходзіць, — мармыча палісмен, угледаючыся ў прахожага, — шрам на левай шчацэ, доўгі нос, карыя вочы, адтапыраныя вушы... Так, гэты тып зусім мог бы быць тым злачынцам, за злаўленне якога вызначана ўзнагарода, ды, на жаль, той ужо злоўлены.

### ГАПКА

Гапка намагаецца навучыць сабаку служыць. Муж кажа:

— Так у цябе нічога не выйдзе, дарагая.

— Нічога, — адказвае Гапка, — спачатку ў мяне з табой таксама нічога не атрымлівалася.

# КУРЁЗЫ

### ПЕРАТВАРЫЦЕСЯ Ў КРАКАДЗІЛА...

Перад шматлікімі знахарамі Папуа — Новай Гвінеі стаіць дылема — ці часова ператварыцца ў кракадзіла або ў змяю, ці назаўсёды адмовіцца ад практыкі лячэння, якая прыносіла ім вялікі даход. Урад краіны, улічваючы, што колькасць знахароў, якія наносяць немалую шкоду хворым, катастрафічна павялічваецца, вырашыў навесці ў гэтай справе парадак.

Цяпер парламент Папуа — Новай Гвінеі разглядае законапраект аб тым, што праціваць лячэнне змогуць толькі тыя, хто на справе пацвердзіць свае звышнатуральныя здольнасці. Справа ў тым, што большасць самазваных „урачоў", як яны гавораць, валодаюць здольнасцю фантастычных ператварэнняў у розных звяроў. Цяпер яны павінны даказаць гэта або „падаць у адстаўку".

### ЧАЛАВЕКАЛЮБСТВА

У Вашынгтоне існуе як быццам бы добрая традыцыя — тут кожны год праводзіцца „Дзень чалавекалюбства". Маўляў, збірайцеся, людзі, на плошчах, выказвайце свае цёплыя пачуцці адзін аднаму, вяселіцеся, радуйцеся, слухайце канцэрты — тут няма пакрыўджаных, усе роўныя ў гэтым вольным свеце...

Не так даўно адбыўся чарговы „Дзень чалавекалюбства". Пад адкрытым небам сабралася мноства людзей, каб паслухаць канцэрт. Гэты канцэрт прынёс многа клопату не толькі яго арганізатарам, але і паліцыі. Паступіла каля 500 заяў, у якіх слухачы канцэрта асуджалі знявагу, непрыстойную лаянку. Паўтары сотні меламанаў атрымалі цялесныя пашкоджанні.




**Лічыць, што існуюць безвыхадныя становішчы, вельмі зручна. Не трэба шукаць выхаду.**